# ЦАРКВА І НАРОД

Беларуская Праваслаўная Часопісь



№ 1.



Вільня 1932 г.

ЗЬМЕСТ № 1.

1. Ад Рэдакцыі.
2. Што трэба разумець пад славамі „Беларусізацыя Царквы“— С. Завейка.
3. Яго Блажэнству Блажэньнейшаму Дзіанісію Мітрапаліту Варшаўскаму, Валынскаму і ўсяе Польшчы. Просьба. Ад Бел. Прав. Групы Студэнтаў У. С. Б. у Вільні.
4. Устаньце Браточкі! Верш Я. К.
5. Беларусы і царква сьв. Мікалы ў Вільні. К. М. студ. права.
6. Хроніка.



Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні Завальная 6.

# Царква і Народ

Беларуская Праваслаўная Часопісь.

Выходзіць раз у месяц.

Адрас Рэд. Вільня, вул. Баровая 7а—1,
Адміністрацыі вул. Завальная 6 кв. 10
Адміністр. адчынена ад 10 да 12 р.

Падпіска на год 2 зал.
Цана асоб. нум. 20 гр.

Год I. Вільня, 5 жніўня 1932 г. № 1.

## Ад Рэдакцыі.

Адным з найгалаўнейшых і найбольш жывых пытаньняў, якія ведалі людзі ад пачатку свайго быцьця і да нашае пары, было і ёсьць пытаньне духовага жыцьця народаў — іх Веры. Ва ўсе пэрыяды гісторыі гэтае пытаньне прыцягвала да сябе найбольш выдатных людзей ня толькі духоўных, але і сьвецкіх. Аб гэтым сьведчаць нам думы і творы старадаўных мудрацоў паганскага і іўдэйскага сьвету, старадаўных грэцкіх і пазьнейшых філёзафаў, аб гэтым сьведчаць гымны і помнікі народаў розных культураў і часоў.

Гісторыя рэлігіяў усіх народаў сьведчыць, што людзкое жыцьцё ўсім найпрыгажэйшым і найдасканалейшым можа пахваліцца якраз дзякуючы рэлігіі, якая першая дапамагла разьвіцьцю культуры народаў ва ўсіх галінах яе выяўленьня. Пэрыяды рэлігійнага ўздыму заўсяды былі пэрыядамі асаблівае маральнае чысьціні і найвышэйшай творчасьці людзкай, а ізноў пэрыяды рэлігійнага заняпаду заўсяды былі адначасна пэрыядамі заняпаду маральнага і наагул культурнага.

У старадаўнасьці кожная нацыя мела сваю асобную нацыянальную рэлігію. Дзякуючы сваёй нацыянальнай рэлігіі, кожны народ выпрацоўваў сваю асаблівую, нацыянальную культуру, якая дапаўняла культуру агульна-людзкую.

Асабліва моцным і дабратворчым на жыцьцё людзей быў уплыў рэлігіі хрысьціянскай. Цэлыя народы, дзякуючы хрысьціянству, ўзвысіліcь на так высокі ровень поступу і цывілізацыі, што паняцьце аб народзе цывілізаваным стала неразлучным з паняцьцем аб народзе хрысьціянскім.

Хрысьціянства не зьяўляецца рэлігіяй аднаго народу: яно аднолькава абыймае ўсе народы. Аднак і Хрысьціянства карыстаецца нацыянальнымі асаблівасьцямі дадзенага народу і іх падтрымлівае. Уплыў хрысьціянскіх ідэяў раскрывае розныя бакі нацыянальнага духу народаў і выяўляе іх нацыянальныя багацьці. З другога боку і само Хрысьціянства, калі яно зрастаецца з нацыянальным духам народу, выяўляецца ў яго нацыянальным жыцьці, шырэй выяўляе сваю духовую сілу ,глыбей западае ў душу народа і дае найдасканалейшыя вынікі дабратворчага ўплыву. І таму яшчэ Сьв. Апосталы і іх наступнікі, пры распашырэньні Хрысьціянства сярод тагачасных народаў, карысталіся іх мовай, датарноўваючыся да асаблівасьцяў іх жыцьця, найяскраўшым прыкладам чаго служыць звальненьне Апостальскім Саборам хрысьціян з паганцаў ад выконываньня іўдэйскага абразаньня. Ня прыпадкова і славянскія апосталы Сьв. браты Кірыл і Мяфод паставілі Хрысьціянства сярод славянскіх народаў у іх роднай мове на нацыянальны грунт.

У гістарычным жыцьці Беларускага і Украінскага народаў Вера і нацыянальнасьць так цесна злучаны між сабой, што барацьба за адну з іх зьяўлялася аднachасна барацьбой і за другую. У сучасную хвіліну Беларускі народ змагаецца за свой, пабудаваны на падставе хрысьціянскай маралі, нацыянальны быт. Вялікая небясьпека пагражае гэтай падставе з боку бязбожжа і розных кірункаў сэктанства.

Нязьвязаная з нашым народам, толькі фармальна кіруючая яго духовым жыцьцём, сучасна ягіерархія, да якой на працягу некалькіх гадоў зьвярталіся ад розных арганізацыяў і ўстановаў прадстаўнікі беларускага грамадзянства з просьбаю аб унармаваньні царкоўнага жыцьця, — астаецца на ўсе гэтыя дамаганьні

глухою. Згубныя для Царквы, а праз гэта і для Народу, варожыя выступленьні супроць яго нацыянальных асаблівасьцяў і мовы, уціск беларускага духавенства, эксплёатацыя народу, падтрымоўваньне неадпаведных чужацкіх элемэнтаў, нават коштам адыходу верных ад свае Царквы, — вось тыя краскі, якія так буйна растуць на нашай царкоўнай ніве.

Гэта якраз і змусіла нас, беларускае царкоўнае грамадзянства, выступіць у абарону Праваслаўя, як маральнай падставы жыцьця народу, і павясьці рашучую барацьбу як з бязбожжам, так і тымі, хто да яго распашырэньня, а праз гэта і да заняпаду духова-нацыянальнага жыцьця Бел. Народу, спрычыняецца, незалежна ад займаных гэнымі асобамі становішчаў.

Ня лёгкая наша праца, але мы будзем вясьці яе публічна і да поўнае перамогі. Яе вымагаець дабро Царквы і Народу.

Шляхі, дзеля асягненьня гэтае мэты, мы выбралі наступныя.

1) Згуртаваньне, на ўзор слаўнае мінуўшчыны, каля родных сьвятыняў верных Царквы Зах. Беларусі і паглыбленьне іх рэлігійнае сьведамасьці.

2) Беларусізацыя царкоўнага жыцьця і кліра.

3) Змаганьне з рамесьніцкім фармалізмам і дэструкцыйнай прафанацыяй на ўлоньні Царквы, падрываючымі Яе аўтарытэт і дэмаралізуючымі Народ.

Прыступаючы да гэтае ахвярнае працы, Рэдакцыя часопісі глыбака верыць у свае сілы, у свой гарт вытрываньня аж да перамогі, зарукаю якое нам будзе Хрыстос.

---

*Праваслаўныя беларусы! Вашым абавязкам хай будзе распашырэньне гэтае часопісі па ўсім закуткам Беларусі.*



С. Завейка.

# Што трэба разумець пад славамі „Беларусізацыя Царквы“.

Ужо не аднойчы ў беларускай, расейскай і польскай прэсе гаварылася аб тым, як царкоўнае бел. грамадзянства разумее сказы „беларусізацыя царквы“, „беларусізацыя духовага жыцьця“. Ня гледзячы на гэта, нясумленныя адзінкі, самі добра разумеючы сапраўдны сэнс вышэйпрыведзеных сказаў і ўмеркаванасьць дамаганьняў царк. бел. грамадзянства з гэтымі словамі злучаных, выстаўляюць ўспомненае паняцьце беларусізацыі нейкім пугалам, імкнучыся гэткім чынам запалохіваць ёю людзей менш сьвядомых. Царк. бел. грамадзянства нясумленна абвінавачываецца ў нейкім сэпаратызме, разбураньні Царквы і г. д..

Вось-жа, каб палажыць канец усім падобным нясумленным тлумачаньням варожых нам элемэнтаў, якія сваю асабістую карысьць, а ў лепшым выпадку, чужую для нашага народу і зусім не царкоўную справу, ставяць вышэй дабра Царквы, яшчэ раз высьвятляем, што пад „беларусізацыяй Царквы“ разумеецца наступнае:

1) Казаньне пропаведзей у прыходах з беларускім насельніцтвам у беларускай мове.

2) Навучаньне ў школах дзяцей беларускага народу рэлігіі ў мове беларускай.

3) Вядзеньне кансысторскага дзелаводзтва, зносіны кансысторыяў з благачыннымі, духавенствам і прыхаджанамі-беларусамі, а таксама благачынных і духавенства між кансысторыямі, духавенствам і прыхаджанамі-беларусамі ў беларускай мове.

4) Асабістыя службовыя зносіны духавенства з прыхаджанамі-беларусамі ў беларускай мове.

5) выхаваньне будучых духаўнікоў для беларускага народу ў Віл. Дух. Сэмінарыі ў беларускім нацыянальным духу.

6) Тактоўныя, прыхільна-ўважлівыя, неабражаючыя нацыянальнага пачуцьця беларускага народу адносіны духавенства да народных звычаяў, традыцыяў, нацыянальнае культуры і беларускага імкненьня да незалежнасьці.

Апрача гэтага, у сілу блізасьці да нас антыхрысьціянскага сьветагляду, ад духавенства вымагаецца і тое, каб яно ня толькі на словах, але сваім жыцьцём і захаваньнем падавала народу добры прыклад жыцьця, аснаванага на хрысьціянскай маралі, што мае аднолькавае значэньне ня толькі для беларускага праваслаўнага, але і наагул для хрысьціянскага насельніцтва.

**Багаслужэбнай мовай астаецца мова славянская.** Вышэй-жа прыведзеныя патрэбы для духовага жыцьця народу абсалютна не зьяўляюцца максымальнымі ці надзвычайнымі, пярэчачымі царкоўным канонам. А што гэта так, пабачым з наступнага.

У № 41 ад 28 сьнежня за 1924 г. „Вестника Православной Митрополии в Польше“, афіцыяльным органе Мітраполіі, ёсьць надрукаваны пастановы сьв. Сыноду ад 16 чэрвеня і 14 сьнежня 1922 г. і 7 верасьня 1924, якімі духавенству прапануецца ўжываць беларускую мову ня толькі ў пропаведзях і пры навучаньні рэлігіі, але дазваляецца беларуская вымова царкоўна-славянскага тэксту ў Багаслужэньні. Больш таго: згодна з пастановаю Сьв. Сыноду ад 7 верасьня 1924 г. журнал № 20, дазваляецца ўжываць беларускую мову ў Багаслужэньнях, дзе гэтага пажадаюць прыхаджане, зразумела, па кнігах зацьверджаных Выш. Дух. Уладай.

Нарэшце сьцьвярджаем, што яшчэ ў 1921 г. дазволіў, ці лепш паясьніў, бо гэта кананічна ніколі не забаранялася карыстацца беларускаю мовай у Багаслужэньні і сьв. пам. Сьв. Патрыарх Ціхан.

У артыкуле „Нашы заданьні“, зьмешчаным у № 1 „Праваслаўнага Беларуса“ ад 1 лютага 1925 г., які выдаваўся, ў Варшаве Праваслаўнай Мітраполіяй ў Польшчы, чытаем.

„Перажываем сумныя часы нашага ня толькі царкоўнага, але і агульна культурнага заняпаду. Школаў беларускіх блізка што зусім ня маем, праваслаўныя Цэрквы зачыняюцца. Духавенства, ня маючы пад сабой пэўнага грунту, хістаецца на ўсе бакі. У сярэдзіну маласьвядомай беларускай масы пачынаюць пускаць карані ворагі Праваслаўнай Царквы: баптысты, штундысты, мэтадысты... Цьвёрда пераканаы ў тым, што Праваслаўная Царква болей знойдзець сярод беларусаў верных сыноў сваіх і цьвёрдых абаранііцеляў царкоўных традыцыяў, калі і служба Божая і казаньні ў царкве будуць адпраўляцца на зразумелай для веруючага мове. Толькі слова сказанае з амбону матчынай мовай найглыбей западаець у душу малюшчагася. А дзеля гэтага „Праваслаўны Беларус“ будзе стаяць за ўжываньне роднай мовы ў Царкве. Служба Божая на беларускай мове павінна адпраўляцца ўсюды, дзе гэтага пажадаюць праваслаўныя прыхаджане. Царкоўныя казаньні павінны прамаўляцца толькі на роднай мове. Не ў якіх-небудзь партыйных, або нацыянальна-шавіністычных мэтах мы стаімо за Службу Божую і прамаўляньне казаньняў на матчынай мове веруючага, а толькі для лепшага ўразуменьня Слова Божага і для збліжэньня Царквы з народам. Толькі ў найцясьнейшым збліжэньні з народам, Царква наша знойдзець тую моц няперамож-

ную, якая так патрэбна для яе жыцьця і пашырэньня ў цяперашнія часы

Зразумела, што баронячы беларускую мову ў Царкве, мы павінны дамагацца і ўвядзеньня яе ў духоўныя школы, адкуль выходзяць пастыры для нашага беларускага народу. Навучаньне Закону Божага ў народных школах як урадовых, так і прыватных, павінна быць толькі ў роднай матчынай мове дзіцяці. Дапамога ў складаньні адпаведных падручнікаў і выдаваньне іх, таксама ёсьць галаўнейшае наша заданьне..."

Гэтак пісала ў 1925 г. часопісь, выдаваная Мітраполіяй з Багаслаўленьня Мітрапаліта Дзяніса. Часопісь, у загалоўку якой у № 1 мы чытаемо: „Рэдакцыі Праваслаўнага Беларуса. Благаслаў, Божа, гэта слова беларускае Царкве Праваслаўнай на славу і народу беларускаму на дабрабыт. Діонісій. Мітрапаліт Варшаўскі і ўсей Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. 30 студзеня 1925."

Напэўна ў кожнага, хто прачытаў і задумаўся крыху глыбей над вышэй прыведзеным, паўстануць менш больш наступныя пытаньні. Да каго-ж можна аднесьці закід імкненьня да сэпаратызму ў Царкве, які стала дагэтуль прыпісваецца бел. царк. грамадзянству, з прычыны яго дамаганьня беларусізацыі Царквы, — ці гэтаму грамадзянству за яго менш чым мінімальныя дамаганьні, ці Выш. Дух. Уладзе? А калі гэта не зьяўляецца нейкім сэпаратызмам, то чаму Выш. Духоўная Улада, выносячы прыведзеныя пастановы, ў практыцы дазваляе паасобным гіерархам і эпарх. кіраўніцтвам ня лічыцца з патрэбамі беларусаў? Як і чым гэныя неконсэквэнтнасьці вытлумачыць? Ці можа палажэньне Прав. Царквы ў Польшчы гэтак зьмянілася налепшае, што прыходзіцца нэгаваць высказаныя думкі, пастановы Сьв. Сыноду і Багаслаўленьне Мітрапалітам Дзянісам беларускае мовы? Ці, можа ўрэшце, пастановы Сьв. Сыноду Царквы Праваслаўнай ў Польшчы трэба разумець наадварот і безнаказна ў практыцы можна модыфікаваць іх як каму хочацца? Усё гэта сумныя і вельмі сумныя пытаньні, адказ на якія хай дасьць сам чытач згодна з сваім сумленьнем!

Мы сумысьля прывялі тут гэныя „некананічныя" дамаганьні бел. царк. грамадзянства і сапаставілі іх з каналічнымі пастановамі Сьв. Сыноду, з дазволам сьв. пам. Сьв. Патрыарха Ціхана, з выпіскамі з мітрапалітальнага „Праваслаўнага Беларуса," каб гэткім чынам паказаць няслушнасьць і нягоднасьць закідаў робленых бел. грамадзянству, быццам яно імкнецца да сэпаратызму, разбурэньня Царквы і г. д. Таксама сканстантуем і тое, што сваей упорнасьцю, незразуменьнем адказнасьці хвіліны і злой воляй Царкву ў нас разбурае якраз той з сваімі супрацоўнікамі, хто браў

удзел у пастановах Сьв. Сыноду. Гэта яны, адчуваючы страшэнную ненавісьць да Беларускага Народу, якраз нягодна і прадстаўляюць яго сьвятыя імкненьні як разбураючыя Царкву і жорстка душаць праявы яго рэлігійна-нацыянальнага адраджэньня.

Але той мыліцца, хто думае што магчымы гвалт і акупацыя душы Народу. Цэрквы пустуюць усё болей і болей. Штораз часьцей здараюцца выпадкі недапушчэньня прыхаджанамі сваіх свяшчэньнікаў у цэрквы, а то і прымусовы вывад іх з сьвятыняў. Бел. царк. грамадзянства ўсё гэта балюча пераживае і таму ўсьцяж імкнецца да направы царкоўнага жыцьця. Але бачучы, як яго найшчыршыя і найсьвяцейшыя імкненьні правакуюцца закідамі некананічнасьці з боку „кананічнага" гвалту і зьдзеку, гэнае грамадзянства адвяртаецца ад духаўнікоў чужынцаў, перастае шанаваць ненавідзячую яго гіерархію.

---

## *Яго Блажэнству Блажэньнейшаму Дзіанісію Мітрапаліту Варшаўскаму, Валынскаму і ўсяе Польшчы.*

*Ад Беларускае Праваслаўнае Групы Студэнтаў У. С. Б. у Вільні.*

## *ПРОСЬБА.*

**Пад гэткім загалоўкам Бел. Прав. Група Студ. У. С. Б у Вільні апошнім часам падала Яго Блажэнству Мітр. Дзянісу мэморыял, які мы тут зьмяшчаем цалком, каб паказаць грамадзянству сапраўды трагічнае палажэньне беларускага народу ў царкоўным жыцьці і ягоныя імкненьні да свайго вызваленьня, да праўды Хрыстовай.**

**РЭДАКЦЫЯ.**

Ад пачатку існаваньня незалежнае Польскае Рэспублікі, беларускае праваслаўнае грамадзянства пачынае працаваць над унармаваньнем царкоўнага жыцьця на Беларусі. Гэтак ужо ў 1921 г., на ўзор царкоўных брацтваў з XVII в,, паўстае ў Вільні Брацтва Сьвятое Тройцы. Мэтаю гэнага Брацтва была апека над праваслаўнымі беларусамі, асьвета ў духу праваслаўным і беларускім, падмога цэрквам і інш. У гэнай сваёй працы беларускае праваслаўнае грамадзянства карыстаецца падтрыманьнем сьв. пам. Мітр. Юрага. Зразуменьне карысьці царкоўнае працы на грунце нацыянальным было выяўлена тады і Вашым Блажэнствам, доказам чаго можа

служыць факт выдаваньня пры Мітраполіі ў 1925 г. з Вашага Багаслаўленьня часопісі ў беларускай мове „Праваслаўны Беларус“. Асаблівую актыўнасьць у справах царкоўных бел. грамадзянства выяўляе пачынаючы з 1926 г. У гэты час, дзякуючы яго стараньням, для бел. вучнёўскае моладзі ў Вільні прызначаецца Пятніцкая царква, робяцца захады аб звароце з Масквы Сьв. Мошчаў Віл. Мучанікаў Антона, Іоана і Эўстафія, выдаюцца царкоўныя часопісі, як „Народная Ніва“, „Беларуская Зарніца“, „Праваслаўная Беларусь“ і інш. Робяцца захады аб утварэньні ў Вільні для прав. беларусоў самастойнага прыходу, захады аб адпаведнай падгатоўцы духаўнікоў для Бел. Народу, як гэта сьцьвярджаецца мэморыялам **Беларускага Нацыянальнага Камітэту** ад 6 сьнежня 1927 г.; пастановай **Галоўнае Ўправы Таварыства Беларускае Школы** ад 28 кастрычніта 1927 г. прадстаўленай Вашаму Блажэнству, наступнага зьместу:

„Галоўная Ўправа Таварыства Беларускае Школы сьцьвярджае: 1) што Дзяржаўная Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя ў Вільні гатуе духоўных пастыраў для епархіяў Віленскай, Горадзенскай і Палескай, праваслаўныя вернікі каторых складаюцца з беларусаў, 2) што праваслаўнае насяленьне ў вялізарнай сваёй большасьці нацыянальна-сьвядомае, што выяўляецца ў дамаганьні гэтага насяленьня беларускай школы і беларускай пропаведзі ў Царкве, 3) што ўрадаваньне будучых пастыраў, узгадаваных у роднай мове й культуры, зьблізіць міран да духавенства і тым узмоцніць нашую Царкву.

Дзеля прыведзеных матываў, Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы, як прадстаўніца культурных патрэбаў беларускага насяленьня вышменаваных эпархіяў, лічачы, што ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні выкладоваю моваю павінна быць мова беларуская, пастанаўляе прадставіць на разгляд Сьвяшчэннага Сыноду свае погляды ў гэтай справе і прасіць, каб Сьвяшчэнны Сынод неадкладна прыступіў да рэалізаваньня гэтае насьпелае справы, пераводзячы хаця-б палову прадметаў на беларускую мову ў Віл. Прав. Духоўнай Сэмінарыі яшчэ ў сёлетнім школьным годзе.“

Гэтая ўмеркаваная праца і дамаганьні бел. прав. грамадзянства, маючыя на мэце выключна дабро Царквы і Народу, выклікалі спачатку скрытую, а пасьля ўжо і аткрытую страшэнную варожасьць і проціcтаўленьне гэтаму з боку Віл. Эпархіяльнае Ўлады, якая, як гэта відаць з паведамленьня Канцэлярыі Сьв. Сыноду ад 20.I.31 за № 389, не застанаўлівалася нават і перад ілжывым прадстаўленьнем тэй справы Вашаму Блажэнству і Сьв. Сыноду. Між тым, актыўная місыйная праца іншаверных, пашырэньне сэктанства і атэізму толькі яшчэ раз сьцьвярджалі аб неабходнасьці

і канечнасьці неадкладнага правядзеньня ў жыцьцё дамаганьняў бел. прав. грамадзянства. Рознымі беларускімі арганізацыямі і ўстановамі (як напр.: Пэдагагічная Рада Віл. Бел. Гімназіі, Бел. Студэнскі Саюз, Бел. Навуковае Таварыства, Бел. Вучыцельскі Саюз, Бацькаўскі Камітэт Віл. Бел. Гімназіі, Бел. Дабрадзейнае Таварыства і інш.) пачалі прадстаўляцца Вашаму Блажэнству мэморыялы і даклады з высьвятленьнем навісшай над духовым жыцьцём праваслаўных беларусаў пагрозы, абаснаваныя доказамі неабходнасьці задаваленьня вышэй успомненых дамаганьняў дзеля ўхіленьня наступаючае пагрозы. Дзеля таго, што Віл. Эпарх. Улада была найбольшаю перашкодаю, як сваім незразуменьнем адказнасьці мамэнту і неэтычна-пастырскім захаваньнем, пры задаваленьні дамаганьняў бел. прав. грамадзянства, даклады і мэморыялы апошняга зазвычай канчаліся дамаганьнямі аб зьмене гэтае Ўлады і замены яе новаю, духоўна і кроўна зьвязанаю з Народам.

Гэтак, тагачасны **дырэктар Віл. Бел. Гімназіі Р. Астроўскі** ў дакладзе ад 17.VII. 1930 г. за № 281 на імя Вашага Блажэнства пісаў:

„...Русыфікатарская дзеяльнасьць Віл. Кансысторыі, як гэтага і трэба было чакаць, спаткалася з самым рашучым адпорам з боку бел. грамадзянства, а нетактоўная палітыка да рэлігійна-нацыянальных патрэбаў з боку Кансысторыі і арх. Хвядоса давялі, як Вам напэўна ведама, да вельмі непажаданых і проста можна сказаць, агідных рэзультатаў... Прым у гэтай шкоднай для Царквы працы трымае якраз, з сумам трэба прызнаць, Віл. Кансысторыя на чале з арх. Хвядосам...“

**Беларускі Цэнтрасаюз** у дакладзе ад 10.Х.1930, пісаў:

„...Мінімальныя патрэбы (беларусаў) ня толькі ня былі здаволены, а выклікалі з боку Віл. Кансысторыі, з арх. Хвядосам на чале, страшэнную варожасьць і ўціск усяго беларускага... Ня маючы ў сабе адвагі, сілы і здольнасьці, каб агульнае царкоўна-грамадзкае дабро паставіць вышэй свае асабістае карысьці, каб сваечасным здаваленьнем мінімальных патрэбаў наладзіць згоду і супакой з беларускім грамадзянствам праз умеркаваных і ўплывовых прадстаўнікоў яго, Віл. Эпарх. Улада стала ў абарону выключна свае асабістае карысьці, баронячыся шляхам помсты над ні ў чым непавіннымі людзьмі... Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьвятовых і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў усяе Зах. Беларусі зварочваецца да Вашага Блажэнства з ветлівай просьбай аб... замене на пасадах арх. Хвядоса і ўсіх сяброў Кансысторыі іншымі асобамі... Загад Кансысторыі, каб духавенства выносіла арх. Хвядосу і ёй самай даверра, служыць лішнім доказам таго, што

Віл. Эпарх. Улада ня здольна падпарадкаваць сваю асабістую карысьць агульнаму царкоўна-грамадзкаму дабру“.

**Прэзыдыюм Цэнтральнага Беларускага Праваслаўнага Камітэту** ў сваім дакладзе ад 1930 г. пісаў:

„...Прычынаю ненармальных адносінаў духавенства да народу, перашкаджаючых паглыбленьню і ўмацаваньню Праваслаўя ў масах, зьяўляецца фальш, няшчырасьць, крывадушша і хцівасьць сучаснага складу Віл. Эпарх. Кіраўніцтва... Пачынаючы ад арх. Хвядоса і канчаючы вызначанымі ім благачыннымі, гэта значыць увесь кіраўнічы апарат Эпархіі, нацкоўвае духавенства на народ... Дзеля гэтага такое кіраўніцтва зьяўляецца здрадніцкім для Праваслаўя і можа быць акрэсьлена толькі праступствам...У пачатку 1930 г.арх. Хвядос згадзіўся было на ўтварэньне Бел. Прав. Камітэту і даў багаслаўленьне, але ў апошнюю хвіліну ён у абражлівай форме здрадзіў і сваім словам і багаслаўленьню... Падтрымоўваючы за ўсякую цану сяброў Кансысторыі, арх. Хвядос давёў сябе да таго, што яму б'юць вокны і мажуць дзегцям сьцены і вароты яго кватэры, што абражае сьвятыню — Духаў Манастыр і Праваслаўе. Бел. Прав. Камітэт сьцьвярджае: 1) вялікую шкоднасьць і небясьпеку для Праваслаўя дзеяльнасьці Віл. Эпарх. Улады. 2) магчымасьць перанясеньня выкліканага Кансысторыяй у грамадзянстве Віл. Эпархіі незадаволеньня і ў другія Эпархіі... і лічыць неабходным прасіць Ваша Блажэнства правясьці праз Сьв. Сынод зьмену ўсяе Віл. Эпарх. Улады..., што выкліча агульнае здаволеньне і карысна адаб'ецца на палажэньні ў нас Сьв. Праваслаўя...“

**Беларуская Праваслаўная Група Студэнтаў У. С. Б. у Вільні** ў дакладзе ад 30 верасьня 1931 г. пісала Вашаму Блажэнству наступнае:

„...Жывучы ў розных закутках Зах. Беларусі, мы з болем бачым, што сапраўднымі і найвялікшымі віноўнікамі разбурэньня царкоўнага жыцьця зьяўляюцца сябры Віл. Кансысторыі, аб дзеяльнасьці і захаваньні якіх народ успамінае з агідаю, а сьведамасьць аб гэтым ў народзе, як чарвяк разьядае нутро веруючай душы... У праваслаўным грамадзянстве ўсё часьцей і часьцей чутны галасы, што Віл. Эпарх. Улада разбурае царкоўнае жыцьцё сьведама і плянова. Не свабодны ад гэнага падазрэньня і нашы маладыя душы... Толькі неадкладная зьмена сучасных сяброў Кансысторыі разам з падтрымоўваючым іх арх. Хвядосам... пакуль яшчэ ёсьць магчымасьць, спрычыніцца да направы ў нас царкоўнага жыцьця...“

**Цэнтральны Бел. Прав. Камітэт** у дакладзе дэлегава-

наму Сьв. Сынодам у Вільню ў жніўні 1931 г. Найсьвяшчоншаму Александру, Арх. Палескаму і Пінскаму, пісаў:

„...На вялікі жаль, сучаснае кіраўніцтва Віл. Эпархіі служыць найбольшаю перашкодаю для паглыбленьня хрысьціянскае маралі ў народзе... Сваёй крывадушнаю дзеяльнасьцю і ганебным захаваньнем, аб чым Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт складаў няраз мэморыялы Яго Блажэнству Мітрапаліту Дзіанісію, абвяшчалася ў прэсе і даведзена да ведама судовых уладаў, Віл. Эпарх. Улада аканчальна здыскрэдытавала сябе ў вачох верных і адпіхнула іх ад Царквы, паставіла ў немагчымае палажэньне лепшае радавое духавенства... Бачучы выяўленьне гэтаю Ўладаю, замест Хрыстовае любові і справядлівасьці — ненавісьці, неабмежаванае ілжы і безпадстаўнае помсты, каб такімі сродкамі пратрымацца яшчэ нейкі час на сваіх становішчах, — Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт зусім парваў з ёй, як з разбураючай Хрысьціянства. Вытварылася нячувана цяжкае становішча, аздаравіць якое можа толькі неадкладнае звальненьне ўсяе Віл. Эпарх. Улады і замена яе новаю. Аб аднадушшы ў гэтым пытаньні бел. царкоўнага грамадзянства, сьведчыць злажэньне Яго Блажэнству Мітрапаліту Дзіанісію прадстаўнікамі ўсіх культурна-нацыянальных бел. установаў і арганізацыяў адпаведных мэморыялаў. Прыймаючы пад увагу вышэй прыведзенае... уважаем за безадкладнае правядзеньне наступнага: звальненьне сяброў Кансысторыі: прат. Кушнёва, як найвялікшага шкодніка Віл. Эпархіі, прат. Тучэмскага..."

**Прадстаўнікі Беларускага Праваслаўнага Студэнства** згрупаванага ў **Беларускім Студэнскім Саюзе і Бел. Карпарацыі „Скорынія"** ў дакладзе ад 11 жніўня 1931 г. Найсьвяшчоншаму Александру Арх. Пінскаму і Палескаму пісалі:

„...Разбураючая Хрысьціянства дзеяльнасьць кіраўніцтва Віл. Эпархіі, прадстаўленая ня раз у мэморыялах і прэсе, змусіла да вострага выступленьня супроць гэтага кіраўніцтва... Павінна быць праведзена наступнае... неадкладнае звальненьне з займаных становішчаў арх. Хвядоса і ўсяго сучаснага складу Віл. Кансысторыі і замены іх элемэнтам беларускім."

**Цэнтр. Беларускі Прав Камітэт** у сваім дакладзе ў пачатку кастрычніка 1931 г. на імя Вашага Блажэнства пісаў:

„. .Ня гледзячы на нячуваную кампрамітацыю, Віл. Эпарх. Улада кідае ўжо вызаў ня толькі бел. грамадзянству, але і Сьв. Сыноду: адменены загады Найсьвяшчоншага Арх. Аляксандра... ня выконваецца Яго загад аб прызначэньні сьвяшчэньніка з Палескае Эпархіі ў Віленскую І толькі, дзякуючы інтэрвэнцыі ў улады сьвецкае... удаецца дабіцца выкананьня загаду Найсьв.

Арх. Аляксандра адносна ўспомненага сьвяшчэньніка. Вытварылася нячувана-жудаснае становішча, пры якім іншаверныя цывільныя ўлады бароняць праваслаўнага сьвяшчэньніка ад крыўды, самаволі і зьдзекаў праваслаўнага япіскапа. Ці трэба шукаць больш яскраўшага прыкладу як гэты, дзеля зьняважаньня сану япіскапа і сьвяшчэньніка? За праўдзівыя, але не карысныя для прат. Кушнёва асьведчаньні на судзе, аб подкупе ім сябры Рэв. Камісіі б. Эпарх. Складу і ўрадоўца Кансысторыі Д. Бохана, апошні 23.IX.1931 г., значыцца на другі дзень пасьля суда, выкідаецца з Кансысторыі. Ці трэба шукаць выяўленьня большае нягоднасьці, злосьці і помсты за сказаную праўду, замест Хрыстовае любові з боку Яго першых служыцеляў? Калі кіраўніцтва Віл. Эпархіі застанецца ў сучасным складзе і на далей і на паседжаньні Сьв. Сыноду ня будуць зьдзейсьнены просьбы, зложаныя Найсьв. Арх. Аляксандру, а таксама і ў папярэдніх дакладах Вашаму Блажэнству, дык бел. прав. грамадзянства адвернецца ад яго, падобна таму, як уваходзячыя ў яго склад асобы, адвярнуліся ад праўды і Хрыстовае любові... Бел. прав. грамадзянства ня можа і ня будзе шанаваць тых, хто не шануе Сьв. Веру..."

У дакладзе Вашаму Блажэнству ад 25.III 1932 г. за № 79 **Цэнтр Бел. Прав. Камітэт** пісаў:

„...На вялікі жаль, Віл. Эпарх. Улада, у асобах Найсьв. Арх. Хвядоса і неабмежавана ад'емна ўплываючых на яго сябра Кансысторыі — прат. М. Кушнёва і прат. Дзічкоўскага, неразумеючы адказнасьці хвіліны, ці з прычыны падпарадкаваньня дабра Царквы сваім асабістым карысьцям, — павяла супроць беларусаў рашучую барацьбу. Усе высілкі аб згодным супрацоўніцтве і падтрыманьні духавенства разьбіліся аб упартасьць, а парою і ману арх. Хвядоса, інтрыгі і правакацыю прат. Кушнёва... Найбольш шкоднаю асобаю... зьяўляецца прат. Кушнёў. Аб ім ужо шмат пісалася ў папярэдніх дакладах Вашаму Блажэнству, а закіды крымінальнага характару ў прэсе ім не адкінены. Дзякуючы яго нясумленнай дзеяльнасьці і захаваньню, яго прозьвішча... стала сынонімам усяго цёмнага, нізкага і інтрыганскага. Гэта ён, замест хрысьціянскае згоды, любові і агульнага супрацоўніцтва, сеець антыхрысьціянскую варожасьць як сярод беларусаў, так між расейцамі і беларусамі. Гэта ён для свайго падтрыманьня ўцягвае ў царкоўнае жыцьцё адзінкі антырэлігійныя... Гэта ён інтрыгуе ў Кансысторыі, у Мікалаеўскім прыходзе, бяручы ўдзел у фабрыкацыі ілжыва нягодных пісем, і ў цэлай Эпархіі, выконываючы нечыя пляны, ма-

ючыя на мэце толькі не дабро Царквы." Падпісалі: старшыня — Т. Вернікоўскі і за сэкрэтара Ус. Більдзюкевіч. — Як звычайна просьба канчаецца неабходнасьцю зьмены Віл. Эпарх. Улады.

**На зьезьдзе ў Вялейцы** 15 чэрвеня 1930 г. прадстаўнікоў усіх прыходаў Вялейскага павету, між іншымі была прынята наступная рэзалюцыя:

„...V. Дамагацца і прасіць Сьв. Сынод неадкладнай дымісіі арх. Хвядоса і Віл. Кансысторыі, якія сваёй нягоднай работай разьбіваюць Праваслаўе на Беларусі... якія, кіруючы Віленскай чыста беларускай Эпархіяй, распачалі дэманстрацыйна ўціскаць беларускае духавенства і беларускі клір і выкідваць яго з прыходаў... VIII. Лічыць сучаснага арх. Хвядоса і Віл. Кансысторыю шкоднымі Праваслаўю, а дзеля гэтага іх ня прызнаваць...".

У канцы красавіка г. г. зложаны да Вашага Блажэнства мэморыял **Праваслаўнай Фракцыяй Беларускае Хрысьціянскае Дэмакрацыі** з дамаганьнямі ў ліку іншых таксама зьмены сучаснага складу Кансысторыі і замены яе сьвяшчэньнікамі беларусамі.

Такім чынам, даслоўна ўсім бел. прав. грамадзянствам, бяз розьніцы кірункаў і поглядаў, яго арганізацыямі і ўстановамі, пачынаючы ад існаваньня Прав. Царквы ў адрадзіўшайся Польскай Рэспубліцы, была выяўлена асаблівая прывязанасьць да Царквы і праца дзеля Яе дабра, асаблівая руплівасьць перад пагражаючымі Ёй небясьпекамі, а таксама была яскрава сканстантавана ўся неадпаведнасьць і шкоднасьць для Царквы і Народу сучаснага Кіраўніцтва Віл. Эпархіі і выяўлена рашучае і аднадумнае дамаганьне зьмены гэнага Кіраўніцтва, як разбураючага Царкву і дэмаралізуючага Народ. Ня менш яскрава сканстантавана і неабходнасьць правядзеньня беларусізацыі Царквы. Што дамаганьні беларусізацыі Царквы былі на гэтулькі мінімальнымі, сьведчыць і тое, што нават ня вычарпалі пастановаў Сьв. Сыноду ад 16 чэрвеня і 14 сьнежня 1922 г. і 7 верасьня 1924 г., якімі прынцыпова беларуская мова прызнана дапушчальнай нават у Багаслужэньні, чаго аднак беларускае грамадзянства не дамагаецца. Між тым, да гэтага часу не праведзены ў жыцьцё ні адзін з постулятаў беларусізацыі Царквы, а Кіраўніцтва Віл. Эпархіі і да сяньня астаецца на сваіх пасадах.

Разважыўшы стварыўшуюся сытуацыю, Беларуская Праваслаўная Група Студэнтаў У. С. Б. у Вільні ў лучнасьці з Хаўрусом Беларускае Праваслаўнае Моладзі ў Вільні, Беларускай Праваслаўнай Сябрынай Работнікаў у Вільні і Аб'еднаньнем Прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў Віл. Эпархіі, пастанавіла зьвярнуцца да Вашага Блажэнства і Сьв. Сыноду з просьбай аб неадкладным звальненьні

з сваіх пасадаў на найбліжэйшай Сэсыі Сьв. Сыноду Кіраўнікоў Віл. Эпархіі і замены іх асобамі названымі ў вышэй прыведзяных мэморыялах і дакладах, а таксама аб зьдзейсьненьні іншых просьбаў, выражаных у тых-жа мэморыялах і дакладах.

Нязьдзейсьненьне вышэй успомненых і нашае просьбаў змусіць нас, згодна з прынятай пастановай, распачаць пасьля Сынодальнай Сэсыі шырокую акцыю сярод бел. прав. грамадзянства Віл. Эпархіі ўстрыманьня ад платы кансысторскіх падаткаў і платы духавенству за трэбы.

Гэты крок вельмі балючы, але лёгічны.

Аб вышэй прыведзяным ветліва дакладываем Вашаму Блажэнству і Сьв. Сыноду.

*Беларуская Праваслаўная Група.*
*Студэнтаў У.С Б. у Вільні.*

Вільня, чэрвень 1932 г.

---

## Устаньце браточкі!

Устаньце браточкі, ўстаньце... пара!
Вазьмеце сьвяцільнік у рукі, —
Час ўжо ісьці ад двара да двара
Сьвяціць сьвятлом праўды, навукі.
Убачыўшы сьвет, можа наш беларус
Пачуе ў сабе цьвёрду волю,
Скінуць бяздольля ганебны прымус,
Стварыць сваю лепшую долю.
Ясна сьвяцеце, каб з нас ні адзін
Ня мог заблудзіцца ў цямноце, —
Простую сьцежку прыкладам сваім
Паказвайце ў шчырай ахвоце.
Сьцежкай Хрыста каб ўсе мы пайшлі
Злучаць свае родныя гоні.
І на чале каб з сабой панясьлі
Свой сьцяг беларускай Пагоні.

*Я. К.*

---

*Грамадзяне!*
*Чытайце і пашырайце часопісь „Царква і Народ“.*

---

# Беларусы і царква сьв. Міколы ў Вільні.

Ужо некалькі гадоў царкоўнае бел. грамадзянства ў Вільні дамагалася і дамагаецца засна̄ваньня для прав. беларусаў прыходу пры царкве Сьв. Міколы. Выбар якраз гэтае царквы, а ня іншае тлумачыцца тым: 1) што, будучы пабудаванай у 1347 г., за часы Літоўска-Беларускай дзяржаўнасьці, яна была прызначана дзеля задаваленьня рэлігійных патрэбаў каранного беларускага прав. насельніцтва,

2) знаходзіцца ў цэнтры гораду і таму прыблізна на аднолькавай адлежнасьці ад жывучых па ўсяму гораду беларусаў і

3) ўрэшце, як знаходзячаяся ў цэнтры гораду сяньня за выняткам пары дзесяткаў асобаў, ня мае прыхаджан, бо праваслаўныя, а асабліва з пасярод расейскага эмігранцк. грамадзянства, жывуць па акраінах гораду.

Як у беларускіх, так і ў розных польскіх сярэдніх і вышэйшых школах у Вільні знаходзіцца больш тысячы беларускае вучнёўскае моладзі. Моладзь гэтая — пераважна адарваныя ад сваіх сямей — дзеці сялянства. Дагэтуль яны ў Вільні пазбаўлены як маральнай, так і матэрыяльнай апекі. Агульна ж ведама, як слабое матэрыяльнае забясьпечаньне сяньня мае нашае грамадзянства, і таму лёгка можна зразумець, у якіх надзвычайна цяжкіх варунках знаходзіцца здабываючая асьвету беларуская моладзь. Палажэньне яе стараюцца выкарыстаць ня толькі іншаверцы, розныя сэктанты, але і людзі асягаючыя мэты палітычныя. Сумныя прыклады гэтага мы ўжо мелі. Ужо не адзін дзесятак лепшай вучнёўскай моладзі, якраз дзякуючы адсутнасьці маральнага падтрыманьня і апекі ды з прычыны матэрыяльных абставінаў, быў уцягнены ў неадпаведную для моладзі працу, праз якую пасьля быў выкінуты на брук, а то і проста ў вастрог. Сухая афіцыяльшчына і фармалістыка, замест вывядзеньня моладзі на шлях правідловы, як і трэба было спадзявацца, накіравала яе за вастрожныя краты. Звычайны лёс пасынкаў! Таму вось, таксама адна з прычын, чаму беларусы дамагаюцца свайго прыходу і свайго прыходскага пастыра-беларуса.

Беларуская вучнёўская моладзь каталіцкага веравызнаньня мае маральную, а нават і матэрыяльную апеку і падтрыманьне з боку сваіх духаўнікоў, ксяндзоў-беларусаў. Праваслаўная моладзь, як мы ўжо казалі, падобнае апекі ня мае.

Для аказаньня арганізаванай маральнай і часткова матэрыяльнай дапамогі для вучнёўскай моладзі плянавалася згуртаваньне яе каля роднага прыходу пад апекаю Царквы.

Апрача духовае апекі, меркавалася даць памешканьне пад Саюз для студэнства, аткрыцьцё чытальні, сталоўкі, ладжаньне дакладаў, лекцыяў, хораў, а магчыма і заснаваньне інтэрнату, які цяпер знаходзіцца ў руках мэтадыстаў.

Гэтая сьвятая справа дабрадзейнасьці пры сьвятыні, па прыкладу першых хрысьціян ды слаўных у мінуўшчыне брацтваў, хоць на палову ды здавалася ўжо ажыцьцяўляецца. Пасьля доўгіх захадаў у царкву Сьв. Міколы быў нарэшце вызначаны сьвяшчэньнік беларус.

15 траўня г. г. старэйшае беларускае грамадзянства, беларуская, а таксама і ўкраінская, студэнская і іншашкольная моладзь, сабраліся ў царкву сьв. Міколы памаліцца там разам з вызначаным туды сваім сьвяшчэньнікам беларусам. Якое-ж было іх зьдзіўленьне, калі прыйшоўшы памаліцца, яны замест духаўніка-беларуса, знашлі духаўніка расейца. На знак пратэсту сабраўшыяся пакінулі царкву. Як пасьля высьнілася, арх. Хвядос у апошнюю хвіліну назначаньне сьвяшчэньніка-беларуса адмяніў.

Такім чынам, не дзеля асабістых карысьцяў каго-небудзь з беларусаў патрэбна нам царква Сьв. Міколы, — пры ёй меркавалася заснаваньне цэнтру духовага жыцьця праваслаўных беларусаў, адкуль вучнёўская моладзь разносіла-бы хрысьціянскія ідэі па ўсіх закутках Беларусі.

**К. М. студ. Права.**

# Хроніка.

— У пачатку красавіка г. г. два сябры Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту былі прыняты Мітр. Дзянісам у справе беларусізацыі Царквы. Дзякуючы неадпаведна занятаму становішчу і зразуменьню справы, сябры гэтыя нічога не дабіліся, а сваёй шкоднай для справы ўгадовасьцю адапхнулі ад Камітэту рэшту сяброў і моладзь.

— У пачатку чэрвеня г. г. у Вільні адбылася конфэрэнцыя прадстаўнікоў ад паасобных прыходаў Віл. Эпархіі. Пастаноўлена дамагацца правядзеньня беларусізацыі Царквы і звальненьня сучаснага кіраўніцтва Віл. Эпархіі ды працаваць у гэтым кірунку сярод народу па мяйсцох. Адначасна было закладзена Аб'еднаньне Прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў Віл. Эпархіі.

— У палове чэрвеня была закладзена Беларуская Прав. Сябрына Работнікаў у Вільні. Мэтаю гэтае Сябрыны зьяўляецца, паглыбленьне рэлігійнае сьведамасьці і агульная прыгатаванасьць да барацьбы за беларусізацыю Царквы. Старастам абраны грам. Л. Савуліч а пісарам грам. М. Шышка.

— У палове чэрвеня адбылася нарада прадстаўнікоў Бел. Прав. Групы Студэнтаў У.С.Б. у Вільні, Хаўрусу Бел. Прав. Моладзі, Бел. Прав. Сябрыны Работнікаў у Вільні





і Аб'еднаньня прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў Віл. Эпархіі. У выніку нарады было пастаноўлена зладжыць адпаведны мэмарыял Мітр. Дзянісу дзеля прадстаўленьня яго ў Сьв. Сынод, што даручана зрабіць. Бел. Прав. Групе Студ. У.С,Б. у Вільні. Калі-бы мэмарыял гэны нядаў позытыўных вынікаў, пастаноўлена выдаць адозву да народу аб устрыманьні аплатаў на кансысторскія падаткі і духавенству за трэбы.

— Прыхаджане Залесьненскага прыходу пераслалі Мітр. Дзянісу і арх. Хвядосу просьбы аб звальненьні іх сучаснага настаяцеля Ап. Канстэнчыка. Сьвяшчэньнік гэты, па прыкладу сваіх папярэднікаў, якія царкву здабывалі рэвальвэрам і жалезным ломам, здабыў яе пры помачы паліцыі. Апроч таго выпраўляе гэткія рэчы ды зьдзірства, пры тым да Вялікадня г.г.не адпраўляючы зусім службаў Божых у нядзелі, што сяляне перасталі хадзіць у царкву. Развал у прыходзе поўны. На ўспомненыя просьбы прыхаджане адказу не атрымалі і таму паслалі яшчэ адну просьбу, зазначаючы, што калі Сьв. Сынод не здаволіць іх дамаганьні, яны ўсім прыходам пераходзяць пад главенства Апостальскае Сталіцы.

—14 ліпеня г. г. у Велеградзе (Чэхаславаччына) распачаўся Ўнійны Кангрэс, на якім дзейнае ўчасьце прыймаюць каталікі і праваслаўныя (пераважна Расейскія князі і вяльможы) з Чэхаславаччыны, Югаславіі, Баўгарыі, Нямеччыны, Англіі, Францыі і з інш. Прыймае там удзел і старшыня Расейскага Нацыян. Камітэту ў Парыжы праф. Карташоў, былы прафэсар Дагматычнага Багаслоўя Петраградзкае Дух. Акадэміі і былы обэр-пракурор Сьв. Сыноду ў Расеі.

— Царкоўны стараста Царквы ў Іказьні Віл. Эпархіі, пераканаўшыся, што ўся дзеяльнасьць Царк. уладаў зводзіцца толькі да спаганяньня падаткаў, перайшоў у сэктанства.

—Апошнім часам Мітраполіяй запрапанавана Віл. Кансысторыі выставіць вэкслі на суму 9423 зл. 90 гр., якія Кансысторыя ня можа спагнаць з Эпархіі.

—Галоўна камандуючы ўсімі савецкімі вайскамі Варашылаў сказаў прамову, ў якой рашуча дамагаецца спыненьня бязбожніцкае акцыі. Паводле яго словаў у чырвонай арміі ёсьць 70 проц. веруючых, а нават у самай камуністычнай партыі іх ёсьць 40 проц., і таму супроць бязбожнікаў можа выступіць чынна армія.

— У сувязі з падгатоўкай да скліканьня Сусьветнага Сабору, адна з францускіх часопісяў замясьціла гутарку па гэтаму пытаньню з Канстантынопальскім Патрыярхам, які між іншым зазначыў, што:

„Калі рымскі япіскап, дзякуючы свайму прымату, склі-

Przesyłka opłacona ryczałtem.

ча Сусьветны Сабор, мы ня будзем мець магчымасьці прывесьці патрэбных довадаў дзеля адмовы на ўдзел у ім, бязумоўна пад варункам, калі рымскі япіскап прадставіць на разгляд Сабору ды зацьверджаньне ўсе новыя догматы веры, уведзеныя рымска-каталіцкай Царквой пасьля яе адпаду ад адзінай Царквы. Калі Сусьветны Сабор усе гэныя новыя догматы зацьвердзіць, дык і мы павінны будзем, заявіў патрыарх, прызнаць іх законнымі.“

Як бачым, Канстантынопальскі Патрыарх знаходзіць магчымасьць злучэньня Цэркваў.

— У мінулым годзе ў месяцы чэрвені згарэў дом праваслаўнага дзіцячага прытулку на Казацкіх Могілках каля м. Берасьцечка на Валыні. За спалены дом Выш. Дух. Улада атрымала страхавую прэмію ў суме 20.000 зал., аднак да гэтага часу, ня гледзячы на надыходзячую зіму, нічога ня робіцца і дзеці будуць змушаны ізноў абыходзіцца без свайго прыпынішча. Мясцовае насельніцтва ўсім гэтым вельмі зьдзіўлена а нават абурана.

— Як падаюць украінскія газэты, Крэмянецкія (на Валыні) Місыянэрскія чыньнікі апошнім часам выступілі супроць ужо праведзенай украінізацыі Царквы. Украінскае грамадзянства бачыць у гэтым палітыканства на грунце царкоўным людзей асягаючых мэты не царкоўныя.

## ПРОСЬБА.

Няміласэрдна пазбаўлены мейсца стары і хворы псаломшчык, гэткім чынам апынуўшыся з сямьёй на бруку бяз хлеба, просіць добрых людзей дапамагчы яму. Зьвяртаемся з заклікам да спагадных людзей, бяз розьніцы веравызнаньня,асабліва да сабратаў псаломшчыкаў, дапамагчы няшчаснаму чалавеку ў бядзе. Ахвяры просімо слаць у Рэд. „Царква і Народ“з азначаньнем „для старога псаломшчыка.“



Рэдактар ІВАН БАЛТРУЧАК. Выдавец ЯХІМ КРАСОЎСКІ.

